

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№ 16 (128), СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА

http://haradok.belarda.org - сайт нашага рэгіёна


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## РАСЕЙСКІЯ ВЫБАРНІКІ СУПРАЦЬ УЛАДЫ ЖУЛІКАЎ

**4 снежня ў Расейскай Федэрацыі адбыліся выбары ў Дзяржаўную Думу. У выбарах прымалі ўдзел 7 зарэгістраваных партый. Партыя ўлады "Адзіная Расея" перамагла, але з меншай падтрымкай, чым чатыры гады таму, калі яна набрала 64% галасоў выбарнікаў. Аглядальнікі ва ўсім свеце называюць гэта паразай Уладзіміра Пуціна.**

У новы склад Дзярждумы прайшлі чатыры пракрамлёўскія партыі: „Адзіная Расея" з 49,7% галасоў, КПРФ, якая набрала 19,15%, „Справядлівая Расея" ды ЛДПР з 13,22% і 11,66% адпаведна.

Не пераадолелі 7% бар'еру апазіцыйныя партыі "Яблык", "Патрыёты Расеі", "Правая справа". У выніку "Адзіная Расея" атрымала зусім нязначную большасць у Думе: 238 дэпутатаў з 450. Пасля выбараў 2007 году гэта штучна ўтвораная партыя пад Пуціна мела 315 дэпутатаў. А цяпер партыя згубіла 77 месцаў, страціўшы разам з тым канстытуцыйную большасць. Факты – упартая рэч. Інакш кажучы, партыя ўлады за апошнія чатыры гады згубіла 10% падтрымкі. А гэта азначае, што рэйтынгі прэзідэнта Расеі Дзмітрыя Мядзведзева і прэм'ер міністра Уладзіміра Пуціна пайшлі ўніз.

Разам з гэтым назіральнікі заяўляюць пра шматлікія парушэнні. Як заявіла старшыня Асацыяцыі за справядлівыя выбары "Голас" Лілія Шыбанава, парушаліся правы прадстаўнікоў СМІ і назіральнікаў, што выражалася ў выдаленні асобаў, якія маюць права прысутнічаць пры працы выбарчай камісіі. Былі заўважаны і найбольш грубыя парушэнні заканадаўства: прымушэнне да ўдзелу ў выбарах, подкуп выбарнікаў, правядзенне галасавання па-за межамі ўчастку для галасавання. Сур'ёзныя парушэнні былі пры падліку галасоў і пры прыёме галасоў тэрытарыяльнымі камісіямі ад участковых. Знаёмы почырк, хіба не так?

На сённяшні момант як у Расеі, так і ва ўсім цывілізаваным свеце, не засталося прыстойнага чалавека, які б паверыў у тое, што выбары ў Дзярждуму не былі фальшывымі. Расейскія ўлады прадэманстравалі няшчырасць з самага пачатку. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама Уладзімір Чураў адрынуў прапанову бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЭ аб 260 назіральніках. А прэзідэнт РФ Мядзведзеў нагул заявіў, што хопіць і 50. І гэта пры ўсім тым, што ў Расеі налічваецца 109 мільенаў выбарнікаў і 95 тысяч выбарчых участкаў!

Рэйтынгі сталі паступова падаць, калі кіраўнікі Крамля яшчэ ў 2010 годзе самі прагаварыліся аб ракіроўцы свайго "тандэму". Людзі зразумелі, хто ў Расеі мае рэальную ўладу. Больш "інтэлігэнтны" Мядзведзеў быў усяго толькі марыянеткай для алігархічных кланаў на чале са спецслужбамі Пуціна. Акрамя таго, многія расейцы расчараваліся ў яго папулісцкіх тэзісах наконт таго, што "толькі моцная ўлада зможа навесці ў краіне парадак". На самай справе пуцінскі тандэм прывёў да адхілення народа ад улады, бездані паміж беднымі і багатымі, росту карупцыі, наступам на свабоду слова і масавымі парушэннямі правоў чалавека.

Абураныя нахабнымі паводзінамі ўладаў на выбарах, людзі у буйных гарадах РФ выйшлі на вуліцы. 10 студзеня на Балотнай плошчы ў Маскве апазіцыйныя партыі і рухі склікалі мітынг пратэсту супраць фальсіфікацыяў на выбарах у Дзярждуму. Паводле розных ацэнак удзел у мітынгу ўзялі ад 25 да 80 тысяч чалавек. Мітынг прыняў рэзалюцыю з заклікам да вызвалення палітвязняў, адмены вынікаў выбараў, адстаўкі кіраўніка ЦВК і рэгістрацыі апазіцыйных партыяў.

Старшыня Партыі народнай свабоды вядомы палітык Міхаіл Касьянаў лічыць, што

"паводле ацэнак незалежных экспертаў, на мінулых выбарах фальсіфікацыі дасягнулі 20%, сёлета, відавочна, болей не атрымалася. Таму рэальнае падтрыманне "Адзінай Расеі" – гэта гэтыя 20% фальсіфікацыяў і 30% рэальнага падтрымання. Трэба сказаць, што нават і афіцыйныя лічбы, апублікаваныя Цэнтрвыбаркамам, сведчаць аб тым, дзе "Адзіная Расея" з крахам прайграла выбары. Да прыкладу, у Навасібірску партыя ўлады набрала 27% галасоў і заняла другое месца пасля КПРФ, за якую прагаласавалі 34% выбаршчыкаў. Перамога над "Адзінай Расеяй" назіралася ў Калінінградзе і Омску, дзе камуністы набралі амаль да 30% галасоў выбарнікаў, "адзінаросам" адпаведна дасталося па 25% і 27%. Акрамя таго, партыя ўлады прайграла выбары ў Екацярынбургу, Тальяці, Брацку, Іркуцку.

Яўка на думскіх выбарах склала 60,2%, актыўнасць расейцаў на 5% узрасла. Гэта значыць, што інтарэс расейскага грамадства да прэзідэнцкіх выбараў будзе яшчэ большы, на якіх Уладзімір Пуцін ужо бачыць сябе "элегантным пераможцам". Але ж Расея – не маленькая Беларусь, дзе за кожным незадаволеным выбарнікам палюе па некалькі сілавікоў. У прэзідэнта Мядзведзева пакуль што хапіла розуму прызнаць правы грамадзян на масавыя пратэсты, дзе паліцыя павінна абараняць дэманстрантаў, а не збіваць сотні людзей да непрытомнасці і кідаць ў турмы. Усё ж такі Расея – вялікая краіна, там жывуць аж сто мільёнаў выбарнікаў, таму лепш іх не злаваць.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## Сучасны воблік старой канторы

**Папрыгажэў адміністрацыйны будынак камунгасу. Тыповая двухпавярхоўка пасля рэканструкцыі ператварылася ў стыльны офіс.**

Новае аблічча гарадскога пасёлка Шуміліна прымушае кіраўнікоў паклапаціцца аб выглядзе сваіх вытворчых і адміністрацыйных будынкаў. Свой уклад у добраўпарадкаванне прадпрыемства ўнеслі і спецыялісты жыллёва-камунальнай гаспадаркі. За кароткі тэрмін для паляпшэння камфорту работнікаў канторы было зроблена ўсё магчымае.

Прычым прывязденне ў парадак галоўнага адміністрацыйнага будынку камунгас рабіў уласнымі сіламі. Шмат намаганняў было прыкладзена, каб зрабіць гэта своечасова. Капітальны рамонт распачаўся яшчэ ў верасні, калі перад будынкам паклалі плітку і змайстравалі новы ганак.

За доўгія гады згнілі ўсё аконныя рамы, таму на першым і другім паверхах замянілі больш за трыццаць акон. На гэта было затрачана звыш ста мільёнаў рублёў. Эканомія цяпла павысілася амаль удвая, у кабінетах адразу стала цяплей, у выніку чаго больш камфортным стала рабочае месца.

Адначасова праводзілася і аднаўленне фасада, які абтынкавалі, пабялілі і пафарбавалі. На работы пайшло каля шасцідзесяці мільёнаў рублёў. У бліжэйшым будучым плануюць зрабіць стаянку для аўтамабіляў.

Між іншым, вядома, як бы шыкоўна не выглядала ўстанова, галоўным рухавіком росквіту быў і застаецца чалавек, спецыяліст, які ствараючы працай забяспечвае дабрабыт грамадства. Ці павысіцца кваліфікацыя кадраў шумілінскіх камунальнікаў пасля ўзвядзення новай канторы? Пытанне пакуль што застаецца адкрытым.

**Я. Вайтовіч.**

ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС

## ПРАДПРЫЕМСТВУ ЗНОЎ АБЯЦАЛІ ПАДТРЫМКУ

**"Світанак" ужо некалькі разоў звяртаўся да стану спраў на Обальскім керамічным заводзе. Зараз ён апынуўся на мяжы банкруцтва: працуе ўсяго тры дні на тыдні. Без працы могуць застацца сотні людзей. Каб разабрацца ў сітуацыі, на завод прыбыў кіраўнік вобласці Аляксандр Касінец.**

З эканамічнай сітуацыяй, якая склалася на прадпрыемстве, старшыню аблвыканкама азнаёміў дырэктар ОКЗ Віталь Старыковіч. Неспрыяльныя ўмовы гаспадарання пачаліся яшчэ ў студзені. Нягледзячы на ўсе высілкі працоўнага калектыва, заводу так і не ўдалося выйсці з глыбокага крызісу.

Сутнасць справы ў тым, што асноўная доля выдаткаў прыходзіцца на энерганосьбіты, якія ўвесь час растуць у цане. Таму неабходна пастаянна павышаць энергаэфектыўнасць, зберагаць электраэнергію, зніжаць сабекошт прадукцыі і прадаваць яе спажыўцам па больш нізкай цане.

Без сумневу, сучасныя тэхналогіі дазваляюць зменшыць выдаткі на энергію. Але ж укараненне новых тэхналогій і рэканструкцыя таксама патрабуюць значных капіталаўкладанняў. Калі не знаходзіцца інвестар, тады на дапамогу прыходзіць дзяржава. Такая дапамога была ўжо аказана: грошы на новае абсталяванне выдзяляліся з рэспубліканскага бюджэту. Да таго ж у пачатку года далі 3,4 мільярды на набыццё кагенерацыйнай устаноўкі. На запуск абсталявання пайшло яшчэ 1,5 мільярдаў. Але гэта дробныя ін'екцыі: на новы цэх трэба было знайсці 130 мільярдаў.

Інвестры гатовы былі выдаць заводу крэдыт пад 10% гадавых, але такі варыянт аказаўся непрымальным. У выніку чаго на заводзе павісла вялікая запазычанасць па аплаце за электраэнергію і прыродны газ. Каб не раслі даўгі, яго кіраўніцтва прыняла рашэнне аб пераходзе на скарочаны рабочы тыдзень.

Не сакрэт, што часцей за ўсё атрыманыя ад дзяржавы сродкі накіроўваюцца прадпрыемствамі, як правіла, на бягучыя патрэбы, а не павелічэнне вытворчасці. Ды і кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка не раз казаў, што ўтрыманскія настрої ў прадпрыемстваў будуць выкараняцца. Каб Обальскі керамічны завод не ляжаў цяжарам на бюджэце дзяржавы, ён будзе акцыяніраваны. Але гэта справа не аднаго дня. Спецыялісты з Віцебска ААТ "Кераміка" разглядалі праекты на выратаванню завода, але ў іх саміх праблемы з падобнымі філіяламі ў двух рэгіёнах. Усіх банкрутаў "на буксір" не возьмеш. А пакуль інвестар праявіць цікавасць да збанкрутаванага прадпрыемства, хто будзе плаціць 650-ці работнікам заработную плату?

Пасля таго, як старшыня аблвыканкама Аляксандр Касінец абяцаў дзяржаўную падтрымку, ён загадаў запусціць завод на поўную загрузку. Трэба ўлічваць, што эканамічна апраўданыя дзяржаўныя гарантыі даюцца не ўсім. Гэта залежыць ад пэўных характарыстык прадпрыемства, яго народнагаспадарчага і рэгіянальнага значэння. Цалкам верагодна, што ОКЗ трапляе пад суб'ект гаспадарання, які дзяржава павінна выводзіць з крызісу з прадстаўленнем чарговай фінансавай падтрымкі. Па-першае, обальская цэгла карыстаецца попытам і на складах не залежваецца. Па-другое, гэта адзінае прадпрыемства ў раёне, дзе знайшлі працу большасць працаздольных жыхароў мястэчка – людзям болей некуды пайсці. І па-трэцяе, ёсць спадзяванні на інвестпраекты у наступным годзе. Незразумела толькі адно, чаму кіраўнікі краіны сталі акцыяніраваць прадпрыемствы тады, калі давялі да стану поўнага збанкрутавання? Няўжо гэта нельга было зрабіць 20 гадоў таму, даць калектыву самастойнасць, а не перакладаць фінансавыя праблемы на ўвесь народ?

**Аляксандр Шчамлёў.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то таксама патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

НАША ЭКАЛОГІЯ

# Старэйшае пакаленне дапамагае арнітолагам

**У лістападзе стартаваў новы праект грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Цяпер займелі магчымасць стаць сапраўднымі даследчыкамі дзікай прыроды пажылыя людзі ў рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і на Шуміліншчыне.**

Гэта ўжо другі праект, скіраваны на працу з пажылымі людзьмі, які рэалізуецца ў рамках праграмы "Месца сустрэчы – дыялог" пры фінансавай падтрымцы замежнага Фонда "Памяць, адказнасць і будучыня". З гэтай нагоды ў Шуміліне адбылася сустрэча ў раённым цэнтры дзяцей і моладзі. Праект пад назвай "Усе ўзросты птушкам падуладныя" будзе рэалізоўваць раённая арганізацыя АПБ сумесна з мясцовай арганізацыяй ветэранаў працы.

Як рассказала на сустрэчы старшыня раённай арганізацыі АПБ Іна Сінкевіч, удзельнікаў праекта чакаюць цікавыя мерапрыемствы. У праграме будуць работы па вывучэнню птушак, практычныя заняткі, на якіх навучаць вырабляць птушыныя домікі і кармушкі. Дарэчы, пажылым людзям прадставілі вырабы юных арнітолагаў на птушыную тэматыку, якія займаюцца ў майстар-класах. Прынамсі, больш за ўсё павінен прывабіць пенсіянераў удзел у арніталагічных экскурсіях. Як вядома, многія з іх, што жывуць у невялікім горпасёлку, нярэдка не могуць выехаць з дому, пагуляць па лесе, паназіраць за дзікай прыродай і адпачыць душой.

З пачатку існавання грамадскай арганізацыі АПБ першымі абаронцамі шумілінскіх птушак сталі школьнікі. За гэты час праведзена нямала акцый, даследванняў, рабяты спрабавалі свае сілы ў віктарынах і гульнях. Цяпер юным арнітолагам будзе дапамагаць і старэйшае пакаленне.

Чаму назіранні за птушкамі – адно з самых масавых хобі на Захадзе? Каб стаць прыродааховўнікам, не трэба спецыяльнай адукацыі ці працоўнага месца. Будзь звычайным, няхай не самым паспяховым у вучобе школьнікам, але любі прыроду і ўмей назіраць за яе "насельнікамі". Акрамя таго, больш развітыя краіны раней сутыкнуліся з праблемамі старэння з сувязі з павышэннем працягласці жыцця. У далейшым высветлілася, што актыўнае далучэнне людзей нават пажылога ўзросту да грамадскага жыцця спрыяе больш паўнавартаснаму дыялогу паміж пакаленнямі. Замежны вопыт паказвае, як мноства пенсіянераў працуюць кансультантамі у інфармацыйных цэнтрах, выдаюць абсталяване назіральнікам за птушкамі, ладзяць экскурсіі для турыстаў.

Старшыня раённай арганізацыі ветэранаў Кацярына Палоўнікава ўхваліла падобныя формы работы, якія дазволяць працаваць пажылым разам з маладымі. Шумілінскія пенсіянеры будуць дзяліцца сваім багатым жыццёвым вопытам са школьнікамі, удзельнічаць у рэспубліканскіх акцыях "Салаўіныя ночы", рабіць агляд літаратуры. А рабяты ў сваю чаргу пазнаёмяць старэйшых з вынікамі сваіх экалагічных даследванняў. Безумоўна, такое сумеснае назіранне за птушкамі дапаможа ўсіму насельнікам раёна зноў узгадаць пра важнасць захавання прыроднай спадчыны.

**Алесь Прыбярэжны.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# ПАДАРЫЦЬ СВЯТЛО ДУШЫ

**У райцэнтры адбылося мерапрыемства, прысвечанае Дню інвалідаў, на якое былі запрошаны людзі з абмежаванымі магчымасцямі з розных куткоў раёна. Арганізатарам мерапрыемства выступіла раённае таварыства інвалідаў, якім кіруе Людміла Нагібава.**

3 снежня ў Беларусі адзначаецца Дзень інвалідаў. Гэтае дзяржаўнае свята супала з Міжнародным днём людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Менавіта ў гэты дзень, які вызначаны ў календары, грамадства павінна яшчэ раз звярнуць увагу на праблемы такіх людзей, абараніць іх правы, зберагчы іх годнасць, падтрымаць, пераканаць, што жыццё можа быць напоўнена яркімі момантамі і цікавымі сустрэчамі. У арганізатараў мерапрыемства гэта атрымалася.

У гарадскі Дом культуры завіталі людзі з абмежаванымі магчымасцямі не толькі з Шуміліна, але і з мястэчка Обаль, пасёлка Светласельськага, вёсак Дабеі, Слабады і іншых. Удзельнікі мерапрыемства сабраліся каб пагутарыць не толькі аб сваіх праблемах і патрэбах, але падзяліцца і радасцямі, і ўдачамі.

У гэты дзень не будзе лішнім нагадаць усім, што ў Шумілінскім раёне налічваецца 946 інвалідаў, у тым ліку 452 жанчыны і 44 дзіцяці. Гэтыя людзі жывуць сярод нас, яны заслугоўваюць не толькі спачування, але найперш дапамогі, забеспячэння іх правоў на годнае жыццё, працу і адпачынак.

Каб на душы стала цяплей, добра пастараліся самадзейныя артысты Дома культуры, якія правялі вясёлую гульнявую праграму з конкурсамі і прызамі. Ансамбль "Славяначка" з вёскі Кардон даў гледачам цікавы канцэрт.

Увогуле, на Беларусі пражывае каля паўмільёна людзей, што маюць інваліднасць. Сюды ўваходзяць людзі з гэтак званымі "непрацоўнымі", І і ІІ групамі і яшчэ каля 140 тысяч чалавек з ІІІ групай, чые праблемы са здароўем могуць не быць відавочнымі для навакольных. Каля 25 тысяч — гэта дзеці-інваліды да 18 год. Менавіта таму Міжнародны дзень інвалідаў цяпер стаў актуальным для нашай краіны. Гэта добрая нагода ўдзяліць увагу людзям з абмежаванымі магчымасцямі, паказаць, што яны не адны са сваёй бядой, а побач жывуць неабыякавыя людзі, да якіх можна звярнуцца па дапамогу і падтрымку.

**С. Горкі.**

КРЫМІНАЛ

# СКРАЎ ВУДАЧКІ

5 студзеня ў Шумілінскі РАУС звярнуўся пенсіянер, 1949 года нараджэння з заявай аб тым, што пасля візіту выпадковага знаёмага з яго кватэры прапалі дзве вудачкі. Нанесены ўрон склаў 105 тысяч рублёў. У здзейсненым злачынстве падазраецца непрацуючы, раней судзімы за крадзёж, 1982 года нараджэння. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 205 ч. 2 КК. Скрадзеная маёмасць канфіскавана.

# ВЫНЕСЛІ ЭЛЕКТРАРУХАВІК

У міліцыю паступіла заява ад кіраўніцтва аднаго калгаса аб тым, што невядомыя злачынцы вынеслі электрарухавік з памяшкання фермы. Як высветлілася, памяшканне было незамкнутым і не ахоўвалася. Матэрыяльны ўрон склаў 600 тысяч рублёў. У ходзе вышуку знойдзены падазраваемы ў злачынстве – раней судзімы за крадзёж, 1965 года нараджэння. Вядзецца следства, заведзена крымінальная справа па артыкуле 205 ч. 2 КК.

# АКУМУЛЯТАРЫ

Механізатары УП "Гарадоцкае ПМС", якія працавалі на тэрыторыі нашага раёна, мелі звычку пакідаць свае трактары ля блізляжачых вёсак без аховы. У чарговы раз тэхніка начавала ля вёскі Мазекі. За ноч трактары абакралі: знялі чатыры акумулятары і стартэр. Урон, нанесены прадпрыемству, складае больш за тры мільёны рублёў. Па дадзенаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

НАША ЖЫЦЦЁ

# ДАРАЖЭЮЦЬ ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

**У нашым раёне, як і па ўсёй краіне, працягваюць даражэць прадукты харчавання. Менавіта пасля выбараў цэны пачалі расці і нават на асноўныя прадукты. Да таго ж улады абвесцілі, што адпускаюцца цэны на свініну, ялавічыну, рыбу, сыры, бананы, апельсіны, лімоны, каўбасныя вырабы, фарш, пяльмені, субпрадукты. Ніжэй прыведзены параўнальныя кошты на прадукты харчаванняў ў крамах Шумілінскага райспажыўтаварыства.**

| Наименование продуктов | декабрь | май | ноябрь |
|---|---|---|---|
| Хлеб чёрный | 1550 | 2110 | 3040 |
| Батон | 1810 | 2000 | 3650 |
| Молоко 3,5, 1л | 1690 | 2100 | 4600 |
| Сахар, 1 кг | 2980 | 3600 | 6400 |
| Масло подсолнечное Золотое семечко» | 5510 | 8850 | 23200 |
| Колбаса вареная «Докторская», 1 кг | 13580 | 16890 | 35700 |
| Макароны, 1 кг | 2560 | 3360 | 6290 |
| Масло сливочное «Крестьянское», 200 г | 3730 | 4860 | 8260 |
| Крупа рисовая , 1 кг | 4290 | 6600 | 15650 |
| Крупа гречневая , 1 кг | 5450 | 16230 (за 700г.) | 227300 |
| Водка "Северная губерния" | 6110 | 8690 | 22910 |

У параўнанні з вясеннімі коштамі па восені 2011 года яны павысіліся ў 2-3 разы. Але гэтага павышэння не адбылося з заробкамі насельніцтва. Калі са студзеня па верасень намінальная сярэднемесячная зарплата на Віцебшчыне была 1мільён 555,9 тысяч рублёў, то на Шумілінщчыне за адпаведны перыяд заробак дасягнуў толькі 1млн. 255 тысяч рублёў. Па заробках раён займае 20-е перадапошняе месца ў вобласці. З першага лістапада бюджэт пражытачанага мінімуму склаў у сярэднім 574.790 рублёў. Калі абясцэньванне грошай будзе працягвацца, то шумілінцы будуць належаць да групы самых збядненых рэгіёнаў вобласці.

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ЯК УРАТАВАЦЬ ПРЫВАТНЫ СТАТАК?

**У апошні час у нашым раёне і краіне ў цэлым назіраецца ўстойлівае змяншэнне колькасці кароў на асабістых падвор'ях. Прычын у гэтай з'явы некалькі.**

Па-першае, утрыманне каровы вымагае шмат сіл і часу, прычым гэту работу неабходна выконваць пасля цяжкай працы на прадпрыемстве. Разам з тым малако можна купіць і ў вясковай краме.

Другая праблема – нарыхтоўка кармоў. Не ў кожнага гаспадара ёсць свая тэхніка, што прыводзіць да павелічэння долі ручной працы.

Па-трэцяе, цана на малако, якое прымаюць сельскія Саветы, не ў поўнай меры задавальняе малаказдатчыкаў.

Пераважная большасць прыватных гаспадароў Шумілінщчыны , якія трымаюць кароў, з'яўляюцца малаказдатчыкамі. Вясковыя ранкі нязменна пачынаюцца з таго, што людзі выганяюць на пашу жывёлу, вёдрамі ці бідонамі выстаўляюць вячэрняе і ранішняе малако, якое тут жа збіраецца ў малакавоз і адвозіцца на перапрацоўку. Адно толькі мяняецца: тых вёдраў з сырадоем пакрысе становіцца ўсё менш і менш.

У параўнанні з мінулым годам шумілінскія малаказдатчыкі сёлета прадалі дзяржаве 91,2% малака. Як бачна, рэалізацыя малака зменшылася. І асноўная прычына аб'ёмаў прадаваемага насельніцтвам малака – зменшэнне колькасці кароў. Калі летась на прыватных падворках налічвалася 1024 каровы, то на пачатак сёлетняга года было 868. У Сіроцінскім сельсавеце за дзевяць месяцаў здалі ўсяго 905 кілаграмаў малака на карову (мінус 221кілаграм за адпаведны перыяд мінулага года).

Не здалі пазіцыі толькі гаспадары Мікалаёскага сельсавета. З пачатку года яны прадалі дзяржаве 309 тон малака, што на 290 кілаграмаў больш, чым у мінулым годзе. Але і тут колькасць пагалоўя скарацілася на 160 кароў. Тлумачэнне сітуацыі простае: на Мікалаеўшчыне больш маладых гаспадароў, якія трымаюць па некалькі кароў. Аднак праблемных пытанняў з утрыманнем жывёлы ў маладых не менш, чым у пажылых.

Цэны на малочную прадукцыю, калі хто забыў, рэгулюе дзяржава. А гэта азначае, што праблем у гэтым накірунку быць не павінна. Калі дзяржава лічыць малочную прадукцыю сацыяльна значнай, то падвышэнне коштаў на яе магчымы толькі мінімальныя.

Насамрэч на практыцы адбываецца ўсё наадварот.

Так, у лістападзе выраслі закупачныя цэны на малако. Цяпер за адзін літр малака гаспадар атрымае 2283 рублі. Усе мы пакупнікі і ведаем, колькі плацім за яго ў магазіне. Па фіксаванай цане яго можна было набыць у крамах па 2180 рублёў за літр (3,2% тлустасці). Праўда ў пачатку снежня яно раптам знікла, замест яго сталі завозіць малако 3,6% тлустасці. Такое малако чамусьці пад інструкцыі Мінэканомікі не трапляе і яго кошт узляцеў да 4200-5200 рублёў.

Але ж выдаткі на вытворчасць малака і ў прыватных гаспадарках растуць хутчэй, чым закупачныя і адпускныя цэны, якія рэгулюе дзяржава. Да прыкладу, кошт літра дызельнага паліва вырас да 5,75 тысяч рублёў, бензін маркі АІ-95 – да 5,55 тысяч рублёў. Прадукцыя вёскі цэніцца не так, як прадукцыя горада. Па ранейшаму пануе дыспарытэт: за адзін літр малака можна купіць два з паловай літры паліва. Да таго ж падаражэў камбікорм, насенне, мінеральныя угнаенні. Вось і выходзіць, што прадаваць малако дзяржаве нерэнтабельна, як калгасам, так і прыватнікам.

Таму некаторыя наладжваюць самастойную перапрацоўку (робяць масла, смятану, сыры) , маюць пастаянных спажыўцоў і наяўныя грошы.

Апроч таго, шмат пытанняў узнікла ў грамадзян наконт методыкі вызначэння тлустасці. Многія з іх скептычна ставяцца да лічбаў, якімі аперыруе малаказавод. На гэтай глебе пастаянна узнікаюць спрэчкі. З другога боку, трапляюцца яшчэ недобрасумленныя малаказдатчыкі, якія не супраць разбавіць малако.

І тым не менш, вяскоўцы пакуль спадзяюцца на тое, што цана на малако павінна падняцца. Вельмі ўжо істотна адрозніваецца кошт прадукта на прыёмным пункце і ў магазіне. Ці дачакаюцца шумілінскія гаспадары разумнай цэнавай палітыкі, якая заахвоціць да здачы малака і ўратуе дойны статак?

**Алесь Шумскі.**

УСХОДНІ СУСЕД

# ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА РАСЕІ МОЖА ЗАМАРОЗІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ

ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА З БОКУ КРАМЛЯ АДСОЎВАЕ РЫНКАВЫЯ РЭФОРМЫ Ў БЕЛАРУСІ І СТАВІЦЬ КРАІНУ Ў ДАЎГАВУЮ ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД ВЯЛІКАЙ УСХОДНЯЙ СУСЕДКІ. ДА ТАКОЙ ВЫСНОВЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ АНАЛІТЫКІ, КАМЕНТУЮЧЫ ЗАЯВЫ РАСЕЙСКАГА АМБАСАДАРА АЛЯКСАНДРА СУРЫКАВА АБ СЯМІ МІЛЬЯРДЫ ДАЛЯРАЎ, ЯКІЯ Ў БЛІЖЭЙШЫ ГОД АТРЫМАЕ БЕЛАРУСЬ ПА ДОБРАЙ ВОЛІ МАСКВЫ.

Пачатак ужо пакладзена - 1 снежня Мінск атрымаў 2,5 млрд. даляраў, пералічаных «Газпрамам» за куплю другой паловы акцый ААТ «Белтрансгаз». Згодна з заявах расейскага амбасадара на прэс-канферэнцыі ў Мінску 30 лістапада, да канца гэтага года Беларусь павінна атрымаць 1 млрд. даляраў крэдыту расейскага «Ашчадбанка» (фармальна грошы прызначаныя для ААТ «Беларуськалій») і 440 млн. долараў другога траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС .

У 2012 годзе фінансавая падтрымка будзе складацца з 800 млн. даляраў трэцяга траншу крэдыту па лініі ЕўрАзЭС і прыкладна 0,5 млрд. даляраў першага транша экспартнага дзяржкрэдыту на будаўніцтва Астравецкай АЭС. Акрамя таго, каля 2 млрд. даляраў Беларусь зможа зэканоміць дзякуючы зніжэнню кошту на расейскі газ. Такім чынам, падагульніў Сурыкаў, агульны памер падтрымкі ў 2011-2012 гадах чакаецца на ўзроўні 7,3 млрд. даляраў. «Гэта добрая падтрымка, якая складае каля 25% ВУП Беларусі», - падкрэсліў пасол.

Варта адзначыць, што прыкладна столькі ж, парадку 7 млрд. даляраў, беларускія ўлады разлічвалі атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду, куды звярнуліся па дапамогу ў канцы мая бягучага года.

З улікам рэкамендацый экспертаў МВФ ўрад распрацавала беспрэцэдэнтную па сваёй рэфармісцкай сутнасці прагарму развіцця эканомікі на 2012 год. Адобрыў бы яе кіраўнік дзяржавы - будучы год мог бы стаць сапраўды пераломным для беларускай эканомікі. Між тым да канца года фонд не плануе праводзіць перамовы па прадастаўленню чарговага крэдыту Беларусі, заявіла пастаянны прадстаўнік МВФ у Мінску Наталля Калядзіна. Аднак цуду не адбылося.

Праект макраэканамічнага прагнозу на 2012 год Аляксандр Лукашэнка забракаваў, абвінавацíў міністраў у адарванасці ад патрэб народа і запатрабаваў выканання праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця, ухвалены год таму Усебеларускім народным сходам.

Тое, што перамоўны працэс з МВФ згорнуты на нявызначаны тэрмін, - дрэнны знак для беларускай эканомікі, лічыць былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Па-першае, МВФ дае крэдыты на вельмі выгадных умовах. Па-другое - такія крэдыты даюцца пад праграмы рэформаў, якія спрыяюць аздараўленню эканомікі », - адзначыў Багданкевіч у каментары для БелаПАН. І, што не менш важна, падкрэсліў эксперт, «крэдытнае супрацоўніцтва з МВФ дае інвестарам з цывілізаваных дзяржаў станоўчую інфармацыю». «Гэта своеасаблівая гарантыя таго, што ў краіне, якая атрымала крэдыт, сапраўды праводзяцца рэформы, намеціліся ўстойлівыя станоўчыя тэндэнцыі», - кажа Багданкевіч.

Фінансавая ж падтрымка з боку Расеі небяспечная тым, што, па вялікім рахунку, залежыць не ад эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў, а ад інтарэсаў расейскага боку. Галоўнай умовай пры гэтым называлася прыватызацыя беларускіх дзяржактываў на суму 7,5 млрд. даляраў на працягу трох гадоў. Продаж прадпрыемстваў, тлумачылі ў Маскве, - адзін са спосабаў атрымаць сродкі для папаўнення аплатнага балансу. Улетку гэтага года тагачасны віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын прыгразіў Беларусі тым, што ўмовы выдачы крэдыту ЕўрАзЭС могуць змяніцца, калі беларускі бок будзе працягваць эмісійных палітыку і практыкаваць іншыя антырынкавых меры.

«Расея наўрад ці зацікаўлена ў нейкім адмысловым поспеху структурных рэформаў у Беларусі. Расейцаў па вялікім рахунку і так усё задавальняе, яны выдатна ўмеюць працаваць у такіх палітыка-эканамічных умовах », - лічыць эканаміст Сяргей Чалы. А вось МВФ, дадаў ён, «не з'яўляецца суб'ектам ні палітыкі, ні эканомікі, а таксама не адстойвае геапалітычныя інтарэсы альбо інтарэсы якіх-то бізнэс-структур». Таму, мяркуе Чалы, «папракнуць у чым-небудзь МВФ нельга, у той час як у адносінах з Расіяй такога роду падазрэнні абавязкова прысутнічаюць».

У сваю чаргу, палітолаг Валерый Карбалевіч зазначае: «Расейская дапамогу адсоўвае на нявызначаны тэрмін рынкавыя рэформы ў Беларусі і умацоўвае цяперашнюю эканамічную мадэль. Да рэфармаванні падахвочвае вострая неабходнасць. Рэформы пачынаюцца тады, калі канчаюцца грошы. Атрымаўшы расейскую дапамогу, з рынкавымі пераўтварэннямі можна і пачакаць ».

Акрамя таго, атрымліваючы з Масквы мільярдныя даляравыя крэдыты, Беларусь, акрамя энергетычнай залежнасці ад Расіі, трапляе яшчэ і ў залежнасць пазыковую. Між тым парог эканамічнай бяспекі Беларусь ужо пераступіла. Па дадзеных Міністэрства фінансаў, на 1 лістапада знешні дзяржаўны доўг склаў 12,01 млрд. даляраў, павялічыўшыся з пачатку года на 24%. Валавы ж знешні доўг Беларусі (ён уключае ў сябе доўг органаў дзяржаўнага кіравання, грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі.) ужо на 1 ліпеня гэтага года дасягнуў 33,1 млрд. даляраў.

**Ірына Леўшына, naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ЯК ДЗЯРЖАВА ЭКАНОМІЦЬ НА ЗДАРОЎЕ І АДУКАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ

У ПРАЦЭНТАХ ДА ВАЛАВОГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ БЕЛАРУСЬ ТРАЦІЦЬ НА АДУКАЦЫЮ І АХОВУ ЗДАРОЎЯ МЕНШ РАЗВІТЫХ КРАІН З РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКАЙ. ДЫ І СЯРОД КРАІН СНД ПА ГЭТЫХ ПАКАЗЧЫКАХ ЗУСІМ НЕ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ.

Дзе гатовыя марнавацца на адукаваных грамадзян

Па дадзеных даведніка Белстата «Беларусь і іншыя краіны», у 2009 годзе наша краіна выдаткавала з кансалідаванага бюджэту на адукацыю 4,9% ВУП. А ў 2005 годзе, напрыклад, доля выдаткаў у кансалідаваным бюджэце складала 6,2% ВУП, але затым пастаянна зніжалася. Белстат ў спецыяльнай зноска паказаў дадзеныя за 2010 год - выдаткі кансалідаванага бюджэту склалі ўжо 5,1% ВУП. Зрэшты, сакрэт павелічэння выдаткаў у мінулым годзе ўсім добра вядомы - неабходна было забяспечыць выбухны рост заработнай платы настаўнікаў перад выбарамі.

Але ні паказчык 2009 года, ні нават 2010-га, якí адпавядае паказчыку за 2008 год для Беларусі, не з'яўляецца самым высокім сярод краін СНД. Беларусь у апошнія гады стала абыходзіць Малдова па ўзроўні выдаткаў на адукацыю (9,6% у 2009 годзе і 8,2% у 2008), а таксама Кіргізія (5,9% у 2008 годзе і 6,5% у 2007 годзе).

Што ж тычыцца астатніх краін свету (дадзеныя па іх прыводзяцца толькі за 2007 год), то для развітых краін характэрным з'яўляецца ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю, які перавышае 5% ВУП. Так, па 5,5% да ВУП расходуюць на адукацыю з кансалідаванага бюджэту Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія. Пры гэтым значная колькасць найбуйнейшых і самых прэстыжных ВНУ ў гэтых краінах з'яўляюцца прыватнымі. Так што бюджэт калі і траціць на іх свае сродкі, то відавочна ў нязначнай колькасці. Да таго ж, вышэйшая адукацыя з'яўляецца фармальна платнай (ёсць, праўда, гранты, стыпендыі, крэдыты з растэрміноўкай на вялікі перыяд). Хутчэй за ўсё, асноўныя выдаткі ў гэтых краінах ідуць на сярэднюю адукацыю.

Францыя з фармальна бясплатнай вышэйшай адукацыяй траціць з бюджэту 5,6% ВУП. Германія менш - 4,5%. Самы высокі ўзровень бюджэтных выдаткаў на адукацыю сярод еўрапейскіх краін - у Даніі (7,8%). Ледзь менш - 7,4% - марнуе Ісландыя. Даволі высокі ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю ў Скандынаўскіх краінах - Нарвегія - 6,8%, Швецыя - 6,6%.

Каму патрэбен здаровы электарат

Але калі выдаткі беларускага бюджэту на адукацыю яшчэ як-то ўкладваюцца ў параметры іншых краін, то з выдаткамі на ахову здароўя справы ідуць горш. У 2009 годзе расходы на ахову здароўя ў Беларусі склалі 4,7% ВУП, зменшыўшыся з 5,9% у 2000 годзе. У 2009 годзе сярод краін СНД па гэтаму паказчыку мы былі трэцімі з канца і дзялілі гэтае месца з Арменіяй (таксама 4,7%) Ніжэй выдаткі на ахову здароўя былі ў Туркменістане (2,3%) і Казахстане (4,5%). Больш за ўсіх марнуюць зноў-такі Малдова - 11,9% ВУП, Украіна - 7%, Расія - 5,4%.

Узровень расходаў на ахову здароўя для многіх буйных краін еўрапейскага кантынента перавышае 11% ВУП. Да іх ставіцца Германія, Францыя, Аўстрыя, Швейцарыя, Данія, Бельгія, і нават Партугаліяй. Больш за 10% - Нідэрланды, Швецыя, Грэцыя.

Але ў сусветным маштабе іх абыходзяць Злучаныя Штаты. Тут у 2009 годзе выдаткавана на ахову здароўя 16,2% ВУП. На «сацыяльныя выплаты» у 2009 годзе Штаты патрацілі 43,9% выдаткаў кансалідаванага бюджэту. Беларускі бюджэт - 30% сваіх выдаткаў. І па дадзеным паказчыку абыходзіць іншыя краіны СНД. Праўда, у Малдове, Украіне і Расіі высокая ўдзельная вага «датацый» у бюджэтных выдатках, у адрозненне ад Беларусі.

Аднак і Беларусь, і ЗША сваімі сацыяльнымі марнаваннямі «б'юць» некаторыя еўрапейскія краіны - Германія на сацыяльныя выплаты «транжырыць» 55,9% бюджэтных расходаў, Люксембург - 51,1%, Аўстрыя - 49%.

**Ірына Арлова, naviny.by**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ БУДЗЕ ДЫЯЛОГУ— НЕ БУДЗЕ БЕЛАРУСІ

АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ МЯРКУЕ, ШТО НЕ САНКЦЫІ, А ДЫЯЛОГ У СВОЙ ЧАС СТАЎ ВЫРАШАЛЬНЫМ У ПЫТАННІ ВЫХАДУ З ТУРМАЎ ПАЛІТВЯЗНЯЎ.

У Варшаве прайшла традыцыйная канферэнцыя «Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты», што ладзіцца пры Інстытуце грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта імя Лазарскага. На ёй меў выступ лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Палітык сканцэнтраваўся ў прамове на пытанні, хто выйграе Беларусь у будучыні? «Я веру, што мы выйграем. Мы вернемся туды, адкуль паходзім», — адзначыў Мілінкевіч, маючы на ўвазе Еўропу.

Па словах Мілінкевіча, нават тыя невялікія саступкі, на якія ішла ўлада падчас «лібералізацыі» адыгрывалі важную ролю на будучыні. Галоўнай памылкай Еўропы ён называе адсутнасць дарожнай карты ў адносінах ЕС і Беларусі. «Павінны былі быць канкрэтныя крокі з боку ўладаў, на якія мусіць адказваць Еўрасаюз. Лукашэнка ж нічога не рабіў, а Еўропа чакала. Я працiўнік таго, каб Лукашэнку давалі грошы. Гэтыя грошы пойдуць на рэжым. Дыялог павінен узнавіцца толькі пасля вызвалення палітвязняў. Калі хочаце, не будзе дыялогу — не будзе Беларусі», — мяркуе Мілінкевіч.

Палітык называе праект Еўразійскага саюза «мэтай жыцця Пуціна». «Берлінскі мур», што сёння існуе паміж Беларуссю і Еўропай, толькі на карысць Расіі. Я амаль упэўнены, што пасля абрання Пуціна прэзідэнтам Расія паспрабуе замяніць Лукашэнку на больш лаяльнага і прадказальнага чалавека, які будзе здаваць эканоміку і, не дай Бог, увядзе расійскі рубель».

Мілінкевіч лічыць, што ў 2008 якраз палітыка дыялогу, а не санкцыі прывяла да вызвалення палітвязняў. «Дыялог вызваліў вязняў, а не амерыканскія санкцыі. Санкцыі штурхаюць нас да Расіі. Дыялог значна больш эфектыўны».

Была закранутая і тэма аб'яднання апазіцыі, якая нярэдка ставіцца на Захадзе. «Я за аб'яднанне. Але нават польскай «Салідарнасці» было лягчэй, бо ўсе ад самых левых да самых правых былі за аддаленне Польшчы ад Расіі і набліжэнне да Еўропы. У нас жа нават сярод апазіцыі ёсць сілы, што выступаюць за інтэграцыю з Расіяй і добрасуседскія дачыненні з Еўропай. Я і мае прыхільнікі за інтэграцыю з Еўропай і добрасуседства з Расіяй».

**Зміцер Панкавец, "Наша Ніва".**

ПАРАЎНАЙЦЕ!

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

Многотысячная акция протеста против нечестных выборов прошла в Москве. Как сказал известный писатель Борис Акунин, такой Москву мы не видели с 1991 года. Десятки тысяч человек, потратив свой законный выходной, в холодную декабрьскую погоду вышли на улицы российской столицы, чтобы потребовать честных выборов. Милиционеры говорят, что протестующих было 25 тысяч, журналисты оценивают акцию в 50--60 тысяч человек, организаторы мероприятия говорят, что пришли почти сто тысяч… «Народная Воля» решила указать на пять главных отличий акций оппозиции в Москве и Минске.

**1.Акция в Москве была санкционированной.**

Несмотря на то что и Конституция Беларуси, и Конституция России гарантируют гражданам одно и то же право на свободу собраний и митингов, реализовать его в Беларуси практически невозможно. Потому что у нас введен разрешительный принцип проведения массовых акций, то есть власти должны каждое такое мероприятие разрешить. А они, как правило, этого не делают. Например, ни одна из заявок на проведение пикетов 10 декабря, в День прав человека (!), белорусскими властями не была удовлетворена.

**(Продолжение на стр. 4)**

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

**(Окончание. Начало на стр. 3)**

И это в День прав человека! Хотя Конституцию вроде бы никто не отменял и гарант Конституции не отказался исполнять свои главные обязанности по защите прав человека.

В России ситуация с акциями протеста принципиально иная. Для проведения акции протеста там надо просто уведомить власти о месте планируемого проведения акции и ее ожидаемой численности. Запретить акцию власти по закону не имеют права. Именно поэтому российская оппозиция может проводить согласованные с властями акции протеста. И в минувшую субботу она особо подчеркивала, что готова идти на выполнение всех требований власти, в том числе и перенос места проведения акции, чтобы не подставлять народ под дубинки ОМОНа.

**2.Принципиально отличается личное отношение белорусского и российских руководителей к праву граждан на проведение акций протеста.**

Тех, кто выходит на акции протеста, Александр Лукашенко, как правило, называет «экстремистами», «врагами народа», «пятой колонной» и приказывает пресекать их акции очень жестко. Так, он признался, что лично руководил беспрецедентно жестоким разгоном акции протеста 19 декабря прошлого года.

В ноябре уже этого года на Гожском полигоне Лукашенко дал прямое указание: *«Министерству внутренних дел -- пресекать деятельность экстремистских лиц. Министр внутренних дел должен забыть: прилично, неприлично, как о нас подумают. Необходимо жестко реагировать на любые действия. Главное -- обеспечить порядок в стране».*

Принципиально иная позиция у российских руководителей. После многотысячной акции на Болотной площади президент РФ Дмитрий Медведев написал в своем блоге: *«По Конституции граждане России имеют свободу слова и свободу собраний. Люди имеют право высказывать свою позицию, что они вчера и сделали. Хорошо, что все прошло в рамках закона. Я не согласен ни с лозунгами, ни с заявлениями, прозвучавшими на митингах. Тем не менее мною было дано поручение проверить все сообщения с избирательных участков, касающиеся соблюдения законодательства о выборах».*

**3.Белорусская милиция и российская полиция продемонстрировали принципиальное различие понимания своей роли в обществе.**

Белорусская милиция, как показывает опыт, присутствует на акциях оппозиции для устрашения, запугивания, жестокого подавления и разгона. Таким образом, милиция противопоставлена той части общества, которая не поддерживает власть.

Руководство российской полиции на самой масштабной акции оппозиции последних 20 лет, наоборот, демонстрировало, что люди в форме не противостоят народу, какой бы политической точки зрения он ни придерживался. Милиционеры, которые работали на акции, в подавляющем большинстве были без специальной экипировки, бойцов спецподразделений заставили поднять защитные щитки своих шлемов, открыть лица, показать глаза. Как свидетельствует главный редактор радиостанции «Эхо Москвы» Алексей Венедиктов, который одновременно является членом общественного совета при ГУВД Москвы, это было сделано по специальному приказу руководителя московской полиции с той целью, чтобы не накалять ситуацию, не разжигать вражду между протестующими и людьми в погонах.

Множество фото- и видеокадров свидетельствует, что у многих полицейских в петлицах были белые цветы или ленточки -- символы мирного протеста, которыми с ними делились участники акции несогласных. В интернете размещены сотни, если не тысячи, свидетельств, что полиция вела себя очень корректно, очень дружелюбно, что не дикими, полными ненависти глазами стражи порядка смотрели на пришедших протестовать, а общались с ними спокойно и вежливо. Как результат -- ни одного задержанного в ходе или после многотысячной акции. Ни одного серьезного происшествия. Всем своим поведением российская полиция подчеркивала: «Мы не цепные псы». Поведение их белорусских коллег в этой связи не поддается ни логике, ни объяснению.

**4.В Беларуси и России принципиально разная ситуация со средствами массовой информации.**

Об акциях протеста, планах оппозиции, претензиях к власти и т.п. в России рассказывают многие СМИ. Да, это не ведущие телеканалы. И тем не менее это радиостанции «Эхо Москвы», «Коммерсант FM» и другие, которые вещают в эфире абсолютно легально. Это телеканалы «Рен-ТВ», «Дождь», RTVi, на которых широко представлена альтернативная точка зрения. Это по-прежнему множество газет и журналов. В Беларуси ничего подобного давно нет.

К сожалению, приходится говорить и о том, что не только профессиональные, но и человеческие качества «лиц каналов» в Беларуси и России сильно отличаются. В день проведения акции протеста стало известно, что без сюжетов с Болотной площади отказался выйти в эфир ведущий НТВ Алексей Пиворов. Уже известно, что руководители Первого канала и РТР все дни после выборов активно убеждали Кремль в необходимости давать нейтральные сюжеты об акциях протеста и в том, что в противном случае можно спровоцировать в обществе еще большую волну ненависти и недовольства. Надо понимать, они все-таки смогли убедить Владимира Путина в правоте своей точки зрения: сюжеты российских телеканалов об акции оппозиции были спокойными, более-менее объективными и нейтральными.

Кто в Беларуси сможет убедить Александра Лукашенко в том, что нельзя разжигать вражду в одном народе на том лишь основании, что протестуют люди, которые придерживаются иных политических взглядов? Кто из белорусских телеведущих способен предъявить ультиматум и потребовать объективного освещения новостей в эфире, даже если новости связаны с оппозицией?

**5.Мысль, не закатанная в асфальт.**

На московской акции протеста присутствовали и выступали не только оппозиционные политики, но и люди, наделенные официальными полномочиями. Например, полковник ФСБ Геннадий Гудков, депутат Госдумы от партии «Справедливая Россия», призвал всех коллег в знак протеста сдать депутатские мандаты. Уполномоченный по правам человека при президенте России, демократ с большой биографией Владимир Лукин наблюдал, чтобы, с одной стороны, полиция действовала строго в рамках своих полномочий, а с другой -- чтобы организаторы акции четко выполняли требования полиции и не провоцировали беспорядки. Это говорит о том, что при всех известных издержках в России все-таки не задушено гражданское общество, не задушены альтернативные точки зрения до той степени, до какой это сделано в Беларуси. **Российское руководство в отличие от белорусского все-таки понимает, что в обществе должно быть место для дискуссии, и создает для этого различные легальные структуры.** Президент России приближает к себе и дает возможность работать людям, которые могут высказывать точки зрения, отличные от официальных, доносить до первых лиц страны альтернативную информацию. Видимо, в руководстве России понимают, что путь государственного беспредела -- это прямой путь к революции. А акции протеста, предоставление гражданам возможности реализовать свои законные права, в том числе требовать и добиваться честных выборов, -- это, наоборот, уход от конфликта, конфронтации и крови.

*О чем, интересно, думали белорусские вожди, глядя на происходящее в Москве? Видимо, о том, какие слабаки Медведев и Путин, как они не смогли отдать команду спецназу действовать решительно и жестко, невзирая на приличия…*

**Светлана Калинкина, "Народная воля".**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# ЖЫЦЦЁ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

## У ЦКАВАННІ АНДРЭЯ САННІКАВА І ЗМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА ЎЛАДЫ ПЕРАЙШЛІ ЎСЕ МАГЧЫМЫЯ МАРАЛЬНЫЯ МЕЖЫ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

**Заява, Мінск 13.12.2011 г.**

11 снежня 2011 г. у нядзельным выпуску праграмы "В центре внимания" на тэлеканала "Беларусь-1" быў прадэманстраваны правакацыйны сюжэт пра вязняў сумлення – былога кандыдата Андрэя Саннікава і лідэра моладзевай арганізацыі "Малады Фронт" Зміцера Дашкевіча.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што дэманстрацыя падобнага кшталту відэаматэрыялаў на дзяржаўным тэлеканале ў чарговы раз падкрэсліла палітычную матывацыю іх праследу.

Прадэманстраваны сюжэт з'яўляецца адным са звенняў ланцуга правакацыяў, арганізаваных спецслужбамі Беларусі ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча, галоўнай задачай якіх з'яўляецца аказанне маральнага ціску, дыскрэдытацыя, ствараэнне рэальных пагрозаў для іх жыцця і здароўя падчас знаходжання ў месцах пазбаўлення волі.

Дадзены сюжэт сведчыць, што ў арганізаванай кампаніі па цкаванні А.Саннікава, З. Дашкевіча, членаў іх сем'яў улады Беларусі гатовы перайсці ўсе магчымыя маральныя межы. Дэманстрацыя падобнага відэаматэрыялу сведчыць аб поўнай прафесійнай і чалавечай дэградацыі кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, непасрэднага кіраўніка тэлеканалу "Беларусь-1" і асобаў, якія рыхтавалі сюжэт да эфіру.

Беларускія ўлады, МУС, адміністрацыя папраўчых установаў, у якіх знаходзяцца А. Саннікаў і З. Дашкевіч, нясуць непасрэдную і поўную адказнасць за далейшы лёс, жыццё і здароўе асуджаных вязняў. Праваабарончы цэнтр "Вясна" ў чарговы раз заклікае улады Беларусі:

- спыніць усялякія правакацыйныя дзеянні ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча;
- неакладна дапусціць да асуджаных адвакатаў і блізкіх сваякоў;
- неадкладна і безумоўна вызваліць усіх вязняў сумлення і палітычных зняволеных, якія дагэтуль знаходзяцца ў турмах Беларусі.

**http://spring96.org/be/news/48220**

**Ад рэдакцыі:** Напярэдадні Каляды і Новага году абвешчана акцыя салідарнасці з палітвязнямі Беларусі. Ініцыятары заклікаюць неабыякавых грамадзян накіроўваць паштоўкі да палітвязняў з віншаваннямі. Давайце падтрымае грамадзян, якія змагаюцца за нашу і вашу свабоду! Накіруем паштоўкі па наступных адрасах. Рэдакцыя гатова прадастаўляць слова неабыякавым грамадзянам аб удзеле ў акцыі.

**Чытач! Напішы віншаванне палітвязням**

**Алесь Бяляцкі** -- 222160, Менская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма № 8

**АСУДЖАНЫЯ ЗА ПАДЗЕІ 19 СЬНЕЖНЯ**

Адбываюць пакаранне:

**Андрэй Саннікаў** -- 211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія №3

**Зміцер Бандарэнка** -- 213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Эдуард Лобаў** -- 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20

папраўчая калонія № 22

**Мікола Статкевіч** -- 213004 Магілёўская вобл., г. Шклоў выпраўленчая калонія № 17

**Зміцер Дашкевіч** -- 211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205

папраўчая калонія № 13

**Павал Севярынец** -- 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

**АСУДЖАНЫЯ ПА «СПРАВЕ АНАРХІСТАЎ»**

**Мікалай Дзядок** -- 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Аляксандр Францкевіч**-- 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / я 20

папраўчая калонія № 22

**Ігар Аліневіч** -- 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8

папраўчая калонія № 10

**АСУДЖАНЫЯ ЗА НАПАД НА БАБРУЙСКАЕ КДБ:**

**Яўген Васьковіч** -- 212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а турма № 4

**Арцём Пракапенка** -- 213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК-17, атрад №15

**Павал Сырамолатаў** -- 213030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3 км, ПК №19

**ТАКСАМА**

**Мікалай Аўтуховіч** -- 225293, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы-3, ПК-5, атрад 13.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742
**Падпісана да друку 15.12.2011 у 18.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.